# ЗОРКА



ДАДАТАК «НІВЫ» ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ
№ 43 (404) 24 кастрычніка 1965 г.



## АНЮТКА-ЦЫРУЛЬНІК

Гэта было яшчэ ў садзіку.

Усе малявалі. Барыску дастаўся жоўты аловак. Ён намаляваў сонейка. Потым казаў, што гэта пра яго склалі песню «Солнечны круг, небо вокруг».

Але гэта няпраўда. Таму што блакітнага алоўка, каб намаляваць неба, тады ў яго не было.

На Барыскавым малюнку неба не было. Ад жоўтага кружка на ўсю старонку ішлі жоўтыя лініі - прамені.

Анютка паглядзела на яго малюнак і сказала:

— Я з твайго малюнка магу месяц зрабіць.

— Як гэта? — здзівіўся Барыска.

— У сонца прамені, як косы. А калі іх абстрыгчы коратка-коратка будзе месяц.

Тады Барыска засмяяўся і сказаў:

— Ты, Анютка, будзеш цырульнікам...

ІЛЬЯ ШАХРАЙ

## Арол і Варона

РЭБУС

Вясною Лявон гуляе —
Урокі вучыць не жадае.
— Даволі навукі! Даволі!
Вясной я заўжды на футболе
Для гэтага трэба разгон, —
Гаворыць сур'ёзна Лявон
І выгляд з тае прычыны
Бывае ў Лявона Арліны.
Ды толькі на ўроку ля карты
Яго накідаюць жарты
І выгляд тады ў Лявона
Мокрай Вароны.



А★Д★Г★А★Д★А★Н★К★А

### МІХАСЬКАВЫ КАЦЯНЯТЫ

Убачыць Міхаська дзе-небудзь кінутае кацяня, возьме і прынясе дадому. Заўсёды выхоўваецца ў яго некалькі кацянятаў, а колькі іменна, ён не любіў гаварыць, каб над ім не смяяліся. Часам, запытаюцца ў яго:

— Колькі ў цябе цяпер кацянят?

— Няцмат, — гаворыць ён. — Тры чвэрці іх ліку, ды яшчэ тры чвэрці аднаго кацяняці.

Сябры думалі, што ён так сабе жартуе. А Міхасёк сапраўды задаваў ім задачу, якую зусім няцяжка рашыць. Паспрабуйце!

М. СКРЫПКА





Адрас рэдакцыі: Białystok, ul. Wesołowskiego 1 „Zorka"   BZGraf. — 64

---

У паўднёва-заходнім кутку Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі па рацэ Шпрэ жыве невялікі славянскі народ — лужыцкія сербы, іх усяго 150 тысяч. Стагоддзямі прыгнятаўся гэты народ нямецкімі феадаламі, юнкерамі і капіталістамі. Толькі пасля разгрому фашызму і ўстанаўлення народна - дэмакратычнага ладу на Ўсходняй частцы Германіі пачалося адраджэнне нацыянальнага жыцця лужыцкіх сербаў. Цяпер сербалужыцкія дзеці навучаюцца на сваёй роднай мове, для іх выдаюцца кнігі і часопісы.

Друкуем тут апавяданне з сербалужыцкага дзіцячага часопіса «Плам'е» у перакладзе Алеся Траяноўскага.

Курт Балцар

## Моніка хоча дамоў

— Ну, Моніка, — што сёння новага ў школе было? — пытаецца пан Зымка ў сваёй дачкі.

Моніка моўчкі паклала сваю сумку і, панурыўшы галаву, села за стол насупраць бацькі. Мэбля ў хаце была простая, ды і сама хата мела даволі ўбогі выгляд. Два ложкі, хісткі стол, некалькі крэслаў. Пры сцяне старая шафа і лаўка. Дзяўчынка маўчала, і бацька зноў запытаў:

— Ты мне так і не адказала? Ну, у школе ты можаш не гаварыць, што думаеш, а дома ж — іншая справа.

Моніка хутка ўскінула галаву:

— Ах, нічога асаблівага. Тое, чаму цяпер навучаюць, мы дома ўжо даўно ведалі.

Бацька адразу спахмурнеў і крыху няўпэўненым голасам запярэчыў дачцы:

— Але ж, Моніка, мы не дома, а тут. Колькі разоў я павінен табе гаварыць?

— Дома, дома, — ледзь не плачучы, паўтарыла Моніка. — Татачка, ты ж сам добра ведаеш, як я сумую па нашых Ваерацах.

Бацька хацеў было зноў запярэчыць, але дачка не дала сябе перабіць:

— Прашу цябе, татачка, дай мне сказаць усё. Параўнай толькі сам, што мы там мелі, а што тут — у Дзюсельдорфе. Маці таксама гаворыць, што ты тут хоць якой-небудзь прыстойнай работы яшчэ не змог знайсці! Калі б маці ў чужых людзей не прыслужвала і сёе-тое не зарабляла, то нам зусім кепска было б.

Гэтыя словы Монікі кранулі бацьку. Зымка ніжэй апусціў галаву, а Моніка ўсё таварыла:

— Вось сёння наш настаўнік гісторыі гаварыў, што трэба «остзону» сілай «вызваляць», камунізм там дашчэнту выкараніць. Татка, я так шмат у Ваерацах навучылася разумець, што ведаю — гэта азначае новую вайну. А што мне пасля на пытанне настаўніка адказаць?.. Прашу цябе, татачка, пагавары з мамай, каб нам як дамоў вярнуцца...

Бацька маўчаў, потым пагладзіў Моніку па галаве.

— Пагуляй крыху, толькі спачатку зрабі школьныя заданні, а мы яшчэ з мамай пагутарым...

Радасцю засвяціліся вочы Монікі.

— Але, татка, не забудзься, што ты мне зараз казаў.

*

Зымка падыйшоў да шафы, узяў пісьмо, сеў за стол.

— Ты ж чытаў яго ўжо. Ці, можа, не збіраешся сёння на сваю начную варту? — запыталася Зымкава.

— Калі ласка, гавары цішэй, каб не разбудзіць Моніку. Як ты думаеш, Гана, гэтае шваграве запэўненне, што нам нічога не будзе, калі мы зноў у Ваерацы вернемся, праўдзівае?



— Гандрый, як можна сумнявацца? Ты ж ведаеш Корлу добра. Ах, Ваерацы! Вярнуцца б туды. Крыху, праўда, сорамна. Спачатку ўсё, што стаяла і ляжала, кінуць, а потым нібы грэшнікам, з пакаяннем вярнуцца.

— Калі мы цяпер будзем зберагаць кожны грош, значыць зможам у пачатку новага месяца напэўна на радзіму вярнуцца. Дарма, што з пустымі рукамі будзем вяртацца, затое навучаныя горкім вопытам.

Па тым, як Моніка адразу павярнулася на другі бок, бацькі здагадаліся, што яна ўсё чула. Бацька сабраўся на сваю начную варту, а неўзабаве маці патушыла свечку. Так ніхто і не заўважыў, з якой шчаслівай усмешкай заснула Моніка ў гэты вечар.

# ХІТРАЯ МАМА

— Мама, — сказаў Валодзя, — побач са мной сядзіць дзяўчынка Лена. Яна вельмі добра піша палачкі.



— Цудоўна, — сказала мама. — Было б яшчэ лепш, каб і ты добра пісаў палачкі.

— Мама, — сказаў Валодзя на другі дзень, — у Лены найчысцейшыя сшыткі.

— Добра, — сказала мама. — Гэта вельмі, вельмі добра — утрымліваць сшыткі чыстымі.

Прайшло яшчэ некалькі дзён.

— Мама, — сумна паведаміў Валодзя, — Ленінай бабулі моцна галава баліць.

— Вельмі шкада, — сказала, засмуціўшыся мама. — Кожнаму хвораму чалавеку трэба спачуваць.

— Мама, — задумліва сказаў Валодзя, — у Лены ў косах блакітныя стужкі.

— Ну і што! — адказала мама. — Блакітнае, ружовае, далікатна-зялёнае вельмі пасуе першакласніцам.

На наступны дзень, калі Валодзя прыйшоў са школы, дзверы адчыніла мама.

Валодзя быў не адзін.

— Праходзьце, дзеці, — сказала яна. — Дзень добры, Леначка. Распранайся. Валодзя, чаго ж ты стаіш? Памажы.

Валодзя засароміўся. Ён адвёў маму на бок і спытаў голасным шэптам:

— Мама, а адкуль ты ведаеш, што гэту дзяўчынку завуць Лена?

Б. АКІМАВА



# АРТІСТЫ ТАЛЕНТ

**Выступае аркестр «Райка»**

У Венгрыі жыве 190 тысяч цыганоў. Гэты народ выйшаў з Індыі і ў XV — XVI стагоддзях рассеяўся па ўсёй Еўропе.

Цыганы надзвычай музыкальныя людзі.

Райка — так называюць цыганскіх хлопчыкаў. Таму музычны ансамбль маленькіх цыганоў і атрымаў такое імя. Музыкам гэтага не зусім звычайнага ансамбля па дванаццаць-чатырнаццаць год, а адна дзяўчынка — першая скрыпка — прыйшла ў аркестр, калі ёй было дзесяць год

Мінула восем год, як быў створаны нанава музычны ансамбль «Райка». Калісьці «Райка» складаўся ў большасці з непісьменных, але таленавітых дзяцей. Ён існаваў за кошт таго, што ўдавалася зарабіць у рэстаранах. Сучасны музычны ансамбль стаў сапраўднай школай маладога пакалення цыганоў-музыкаў. Выхаванцаў тут не толькі вучаць іграць, але даюць ім агульную адукацыю. Вучні жывуць у інтэрнаце, у залежнасці ад поспехаў у вучобе атрымліваюць стыпендыю.

«Райка» складаецца з трох аркестраў, у кожным з іх па 40 выканаўцаў. Асноўны склад ансамбля пабываў ужо на гастролях у шматлікіх гарадах Еўропы, другі аркестр едзе ў турнэ сёлета, у трэцім вучацца пачынаючыя.

Пірошка Семеш

## ЗРАБІ САМ





# Для самых маленькіх

**НАША ФЛАТЫЛІЯ**

МЫ ФЛАТЫЛІЮ СВАЮ
ПАДАРЫЛІ РУЧАЮ.

ВЕТРАЗІ НАДЗЬМУЛІСЯ,
МАЧТЫ ЗДРЫГАНУЛІСЯ.

І РУЧАЙ ПАНЁС У МОРА
НАШЫ ГРОЗНЫЯ ЛІНКОРЫ.

Уладзімір Грышкевіч



# Паглыбляй свае веды

Гэтую жывёліну вы можаце ўбачыць у заапарку.

1. Птушка-насарог
2. Сервал
3. Паўднёваамерыканскі тапір
4. Вялікая панда (бамбукавы мядзведзь).
5. Птушка — сакратар.
6. Сланавая чарапаха.

## Таямнічы памідор

Батанікі ламалі сабе галаву: што гэта за дзіўны памідор?! Сапраўды, гэты гатунак памідораў меў зусім незвычайныя ўласцівасці. Яго насенне мела такую цвёрдую скарлупку, што ніякім спосабам не можна было змусіць іх прарастаць. Насенне і мачылі, і падагравалі, і халадзілі, і мачылі ў хімічных прэпаратах, але яно не прарастала. Толькі ў адным месцы на свеце раслі і размнажаліся гэтыя незвычайныя памідоры — на Галапагоскіх астравах (у Ціхім акіяне, 900 км на захад ад Паўднёвай Амерыкі). Толькі прыпадак дапамог выясніць гэтую загадку прыроды. У каліфарнійскі універсітэт неяк прывезлі дзве чарапахі з тых астравоў. Аднойчы іх накармілі насеннем гэтых памідораў. Прайшоўшы праз страўнік чарапах, насенне адразу прарасло.

# НОВАЯ МАЛАНКА

## аднаднёўка гумару і сатыры

### ДА ЎСІХ ЧЫТАЧОЎ НОВАЙ МАЛАНКІ

Грамадзяне! Рэдакцыя звяртаецца да Вас з благальнай просьбай: не дашуквайцеся ў НМ скрытых думак, не падстаўляйце пад ананімныя асобы канкрэтных людзей. Матэрыял (апрача «свежых навін») амаль жыўцом чэрпалі мы са старой «Маланкі» (той, што выходзіла 40 год таму). А што ён і цяпер актуальны, гэта ўжо іншая справа.




Кажуць, што ў Белавежы, дзе 40 год таму актыўна дзейнічала 3 гурткі Грамады, неўзабаве арганізуецца першы гурток БГКТ.

Кажуць, што эстрада «Лявоніха» рыхтуе беластоцкую праграму.



Кажуць, што магістры беларускай філалогіі будуць вяртацца на Беласточчыну.



Кажуць, што ў Храбалах мясцовая ГРН замест пабудовы святліцы, якую рэгулярна, штогод абяцае зафундаваць вёсцы, вырашыла пабудаваць палац культуры.



Кажуць, што светліцовы ў Сукавічах вынайшаў геніяльны спосаб на захаванне ў новай святліцы ідэальнага парадку. Як усё геніяльнае, спосаб вельмі просты: круглыя суткі святліцу трымае на замку.



Кажуць, што пянькоўскі трактарыст, калі арэ, дык заўсёды хістаецца. Таму крыва арэ. Чаму хістаецца — ніхто толкам расказаць не можа.



Кажуць, што восьмага кастрычніка г.г. Міхалоўскі гандлёвы дом быў адкрыты толькі таму, каб людзі маглі пераканацца, што ў секцыі тэхнічных тавараў праводзіцца рэманент, у секцыі прадуктаў майстры майструюць сапсаваны касавы аўтамат і запрудзілі ўсялякую продаж, у секцыі тканін выехалі (ўсе!) па тканіны, а ў секцыі гатовага адзення — праўдападобна — на хрэсьбіны.

КРАПІВА

### ЦІ ТО – ЗДОЛЬНЫ ПЯСНЯР, ЦІ ТО – МОДНЫ ПЛЯТКАР?

(Каму прысвячаецца, дык той дагадаецца).

Ад зары да зары
Усё сядзяць песняры —
Пішуць песні свае (sic!) сялянскія.
Каб жа іх зразумець,
Тлумача трэба мець —
Без яго яны нам марсіянскія
Не мажэ ні адзін
Зразумець селянін
Гэты іхнія песні «прарочыя» —
Ці то — здольны пясняр?
Ці то модны пляткар?
Зразумець не магу, кажу ў вочы я.
Песні ўсё ж не для мас, —
Іх чытаць — трэба час,
І чытаюць іх толькі аматары.
Яны скажуць падчас:
«Вось дык сплёў выкрутас!
Ну і хлопец пляце, ліха матары»...
Згвалчан вобразам змест
Заяўляе пратэст
І ў людзей - чытачоў просіць помачы,
А як возьме чытач,
Дык тут зноў хоць ты плач —
Абалдзее зусім, галаў ломячы.

### НАША ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ

— Даражэнькі, пойдзем у клуб БГКТ на вечарыну?

— Э... што там беларуская вечарына! Лепш правядзем вечар у рэстаране «Люкс».



МАЛЕНЬКІ ФЕЛЬЕТОН

### СУСВЕТНЫЯ РЭКОРДЫ

Завідна робіцца чытаючы, што ў Амерыцы, Англіі, Францыі, Савецкім Саюзе і іншых краінах людзі здабываюць сусветныя рэкорды на матагонках, скачках з трампліна, на лыжах, плаваннем па космасу і гэт. далей.

Адзін амерыканскі баксёр за тое, што ўмеў добра валодаць кулаком, дастаў вялікую прэмію — 100 тысяч долараў.

Жартачкі 100 тысяч! Гэта ж, каля 2 з паловай мільёнаў польскіх злотых, або каля 50 тысяч пудоў жыта аднаму чалавеку за некалькі ўдараў кулаком!

Вось добра было б і нам выступіць на міжнародных конкурсах — праславіць сваё імя на ўвесь свет, а галоўнае — атрымаць вялікую узнагароду.

Але, дзе і як?

Хто з нас асмеліцца выступіць на міжнародных спартыўных конкурсах?

— Ну, хто?..

Вось, каб былі конкурсы на найбольшы лік пасяджэнняў, на працяглацсь іх, або на найбольшую непунктуальнасць, дык мне здаецца, мы здабылі б сусветны рэкорд.

Вам смешна!..

Едзьце ў Беласток — пераканаецеся. Тут, браткі, на кожным кроку, штодня, штомінуты пасяджэнні... пасяджэнні і... пасяджэнні.

Сёння пасяджэнне камісіі, заўтра — аб'яднання, паслязаўтра — прэзідыума, а далей — камітэта, рэвізійнай камісіі, калегіі, рады, гуртка, праўлення і гэтак без ліку...

Вось мы кемлівы народ! Чаго толькі мы не натварылі. А ўсё дзеля таго, каб усё ў пасяджэнні гуляць.

Гэтак, я: пачнеш хадзіць па пасяджэннях ад панядзелку, дык аж ледзь у суботу скончыш. А часам, калі мала бывае дня, дык і ноччу намагаеш.

Нашто мая жонка лагодная, як анёл, а яна на мяне ўсё за пасяджэнні крычыць:

— Ды я табе, — кажа, — ніяк тваіх штаноў не налатаюся; на тых тваіх пасяджэннях чыста прашараваў!

І праўда — паглядзеў я: свеціцца на сонцы, як сіта якое.

Дык вось, хто дасужы, хай з алавіком у руках падлічыць, колькі пасяджэнняў у год прыпадае на аднаго нашага дзеяча, і атрыманыя лічбы параўнае з лічбамі іншых. Тады пераканаецца, што мы лікам і працяглацсю сваіх пасяджэнняў здабылі сусветныя рэкорды, аб якіх, ані дзяды, ані прадзеды нашы не снілі.

Дык вось пара і нам выступаць на міжнароднай арэне і імя сваё пакрыць сусветнай славай.

Хай лікам і працяглацсю пасяджэнняў дараўняюцца да нас іншыя! А хто гэтаму не верыць — хай мае пацыраваныя штаны паслужаць як доказ рэчавы.

Янка Маланка

### АБОЕ РАБОЕ

На лекцыі беларускай мовы настаўнік пытае вучняў:

— Скажыце, хто напісаў паэму «Сымон Музыка»?

Усе маўчаць.

— Мацейчык! Ты скажы.

— Дальбо — гэта не я!

Настаўнік пасля скардзіцца бацьку:

— Ваш сын вельмі тупы: напрыклад, на маё пытанне, хто напісаў «Сымона Музыку», ён адказвае, што гэта не ён...

— Але ж, пане настаўнік, не вядома, ці ён вінен. Можа і сапраўды гэта не ён напісаў.

### МОЖА АБАРОНЯЦЬ

У аддзел аховы гістарычных забыткаў прыходзіць старая бабулька:

— Паночку, сыны мяне крыўдзяць, карміць не хочуць, з хаты выганяюць...

— Гэта не мая справа, мы толькі старымі гістарычнымі рэчамі займаемся.

— Брыдка вам з мяне смяяцца... і я ж старая: паўтары капы гадкоў стукнула.

### ЗДОЛЬНЫ ХЛОПЧЫК

— Татачка, колькі ты заплаціў за гэтыя кніжкі, што мне купіў?

— Дваццаць злотых, сынок.

— Хочаш, я іх табе за пяць злотых прадам.

### ВЕРЫЦЬ У ВАРАЖБУ

— Чаму гэта ты жэнішся з Ганулай? Гэта ж, як кажуць, не ў поўным розуме, а да таго старая, калека і брыдкая?

— Але затое з пасагам. Ды й калі памрэ, дык шкада не будзе.

— А калі ты першы памрэш?

— Не! Варожка мне казала, што яна перш памрэ.

### І БАЦЬКА ПА-НЯМЕЦКУ ВЕДАЕ

Збіраюцца два хлопцы ісці на вечарыну. Каб бацька не перашкодзіў, змовіліся гаварыць «па-нямецку».

— Паўлюк!

— Што?

— А гэр... пойдзем?

— А гэр... куды?

— А гэр... гэр... на вечарыну...

— А гэр на печ, с... дзеці! — крыкнуў, пачуўшы, бацька.

— Бач! — здзівіліся хлопцы, — і бацька па-нямецку ведае!

### ПРАКТЫЧНАЯ

Кавалер (стыдаючыся): — Ах, дазвольце мне з'явіцца вам у сне...

— Калі ласка, вось вам мой адрас.




**Ш. В.:** Вы пішаце нам: «...калі не замесціце маёй «Падслуханай гутаркі», дык бывайце тады назаўсёды! Займуся тады музыкай, танцамі, чым хочаце, толькі не творчасцю». А ведаеце што? Вы маеце зусім слушную рацыю!

✲

**К. З.:** У вершах Вашых думка добрая, але тэхнічнае апрацаванне настолькі слабое, што трох сяброў нашай рэдакцыі ламалі сабе галовы над шліфаваннем іх дый рашылі: «У кошык!»

✲

**Сусед:** З Вашых «жартаў» нават і... конь смяяцца не будзе. А што Вы шчыры наш прыяцель, гэта нам вельмі падабаецца. Працуйце для роднай культуры, будзіце з цяжкага сну сваіх суседзяў.

✲

**Стары Чмель:** Хоць Вы і «Стары Чмель», але ў вершы сваім пішаце:

«Прытуліўшыся ў
куточку,
«Стаў яе (дзяўчыну)
прыціскаць»...

Раім Вам і далей гэтым займацца, бо вершы ў Вас слаба выходзяць і нічога цікавага не прадстаўляюць.

✲

**А. К.:** Не верым у тое, што п'яных чэрці водзяць, бо цяпер гэтым займаецца міліцыя. Верш слабы.

✲

**Вясёлы:** Хоць Вы і вясёлы, а напісалі такі нудны жарт. Між іншым, пішаце: «Прашу змясціць гэты артыкул, а то нашы дзяўчаты вельмі ўжо насы задзіраюць...»

Ну і хай сабе задзіраюць, а Вы на іх не глядзіце! Хіба ў вашай аколіцы няма іншых дзяўчат?



Рэдактар і выдавец Янка Доўгія Ногі.